Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 24. Вільня, 28 жніўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Адміністрацыя „Беларускага Дня“

паведамляе сваіх чытачоў, якія дагэтуль не маглі аплаціць падпісной платы, абяцаючы прыслаць яе пасьля збору жыта, што павінны падпісныя грошы прыслаць у найбліжэйшым часе, бо тым, хто да 1 кастрычніка грошы ня прышле, часопісь „Беларускі Дзень“ высылацца ня будзе.

## Барбарства.

Ня гледзячы на магутную хвалю пратэстаў, якія аханілі мільёны людзей Эўропы, ня гледзячы на пратэсты палітыкаў, вучоных, поэтаў, жанчын, работніцкіх арганізацыяў, сялян, — амэрыканскія судовыя ўлады, пасьля сямёх гадоў зьдзеку над нявіннымі людзьмі, усё-ж такі пасадзілі на электрычнае крэсла сьмерці двух італьянцаў-работнікаў анархістых Сакко і Ванцэтті. Проста ня верыцца, што голас мільёнаў людзей не дайшоў да акамянеўшага сэрца амэрыканскага прэзыдэнта, які, як калісьці Пілат, вымыў рукі перад забойствам і цынічна заявіў:—Не хачу мяшацца ў гэтую справу.

Што азначаець гэты факт?

Пратэсты наплывалі ў Амэрыку, галоўным чынам, з Эўропы. І гэта былі ня звычайныя фальшывыя пратэсты бальшавікоў, у якіх рукі ў крыві, якія самі расстрэльвалі анархістых у Маскве і Пет-раградзе і душаць іх сягоньня ў ізалятарах-турмах у Табольску, на Салоўках, у Бутырках.

Гэта быў праўдзівы, шчыры ўздым Чалавечага Суменьня, абуджэньне Эўропы ад нейкага маразму і сну, ў якім апынулася яна пасьля вайны.

Гэта была хваля чыстага, справядлівага чалавечага гневу.

Амэрыканскія гандляры плюнулі на пратэсты Эўропы і з чванствам, з пагардаю да яе зрабілі сваё чорнае дзела ката-забойцы.

Амэрыка як-бы сказала, што з Эўропаю, з эўропэйскаю думкаю, з эўропэйскім суменьнем яна лічыцца ня хоча і ня зьбіраецца.

Адным словам, Амэрыка досыць выразна кінула рукавіцу ўсім тым, хто пратэставаў процiў прыгавару суда.

Амэрыканскія гандляры вялікія майстры па часьці рэкламы. Іх тавары расходзяцца па ўсім сьвеце. Сягоньня яны зрабілі сабе чорную рэкламу забойцаў і, трэба прызнаць, зрабілі гэта паамэрыканску, расславіўшы сябе на ўвесь культурны сьвет, як і свае тавары.

І калі заўтра ў адказ на гэтую подлую, цынічную рэкламу забойства ўздымецца новая хваля пратэсту і мільёны людзей з агідаю будуць байкатаваць амэрыканскія крамы, амэрыканскія тавары, амэрыканскія даляры, — нічога дзіўнага ў гэтым ня будзе!

Чванства Амэрыкі дорага будзе ёй каштаваць і ня толькі ў сэнсе моральным.

Свой дабрабыт Амэрыка пабудавала на моры нашай, эуропэйскай крыві, на нашых касьцях. Мы, эўропэйцы, далі Амэрыцы даляры і золата і калі Амэрыка думаець, што з Эўропай можна пастуліць, як з утрыманкаю — яна мыляецца.

Чым эўропэйцы могуць адказаць на чванства Амэрыкі, якая плюнула ў нашу душу?!

Толькі агідаю, байкотам.

На другі дзень пасьля сьмерці Сакко і Ванцэтті пачаўся гэты байкот. У Жэнэве паразьбівалі ўсе амэрыканскія склепы, пакідалі тавар у раку, разьбівалі самаходы Форда і нішчылі ўсё, што пахла Амэрыкаю. У Францыі заклікаюць да байкоту амэрыканскіх тавараў.

Ці трэба падтрымаць гэты рух у Эўропе, апраўдаць і пашырыць яго? Бязумоўна трэба, бо правучыць амэрыканскага гандляра можна толькі тады, калі яго моцна ўдарыць па кішані, па даляры. Эўропа гэта мусіць зрабіць і да дэманстрацыйнага байкоту амэрыканскіх тавараў павінны далучыцца ўсе, у каго б'ецца шляхэтнае сэрца эўропэйца. Няхай на сваёй уласнай скуры пачуюць амэрыканцы, што значыць справядлівы гнеў чалавецтва.

*Янка Долін.*

## Выстаўка беларускага друку.

Стараньнем Славянскай Лігі і Інстытуту дасьледаваньня справаў нацыянальных меншасьцяў арганізуецца ў Варшаве першая выстаўка украінскага і беларускага друку. Выстаўка мае быць адчынена каля 10 верасьня ў галоўнай аўдыторыі Варшаўскага Унівэрсытэту. Арганізацыйную працу вядзе спэцыяльны камітэт, старшынёю якога зьяўляецца інжынер Камінскі (Warszawa, Smolna 31 m. 4).

Усё беларускае грамадзянства павінна быць зацікаўлена у тым, каб камплект беларускага друку на выстаўцы быў магчыма поўны і дзеля гэтага ўсе, хто мае ў сваіх руках вычарпаныя экзэмпляры беларускага друкованага слова — павінны прысласьць іх у распараджэньне выставачнага камітэту.

Выстаўка гэна будзе мець бязумоўна палітычнае значэньне ў тым сэнсе, што тая частка польскага грамадзянства, якая да гэтага часу ня мела магчымасьці бліжэй пазнаёміцца з украінскім і беларускім рухам, цяпер будзе мець магчымасьць пазнаёміцца з ім і зацікавіцца справай направы польска-беларускіх і польска-украінскіх адносін.



## Аб патрэбе грамадзкага узгадаваньня.

### IV.

Усё нашае жыцьцё зьяўляецца барацьбой, працай, ведзеннай і ўкладанай дзеля магчымасьці ўлажыць сваё жыцьцё якнайлепш.

У грамадзкім жыцьці, пры супярэчнасьці інтарэсаў паасобных клясаў: паноў-абшарнікаў, фабрыкантаў — клясаў непрацоўных з аднаго боку і працоўнага люду з другога, закон барацьбы перад усім абавязвае ўсіх. А асабліва народ працоўны, які дамагаецца палепшаньня сваёй долі. У Польшчы маем падзел яшчэ іншы: на нацыянальныя групы — палякі, украінцы, беларусы, жыды, немцы. Польшча зьяўляецца дзяржавай, зложанай з некалькіх народнасьцяў. Адны з іх культурна стаяць высока, як немцы і палякі, другія, як беларусы і украінцы, культурна слабейшыя. Віною і прычынаю гэтага зьяўляецца прошласьць і дурная палітыка бышага царскага парадку. Польская Рэспубліка, як гаворыць Канстытуцыя 1921 г., ёсьць дэмакратычнай дзяржавай, дзе кожны грамадзянін мае аднолькавае значэньне. Ні кляса, ні нацыянальнасьць, ні вера не даюць прывілеяў і ня могуць зьяўляцца повадам да пазбаўленьня правоў. Мы ўжо разьясьнялі гэта.

І вось, варочаючыся да школьнае справы для нас, беларусаў, як яна прадстаўляецца смутнаю. Трэба прызнацца, што ў гэтай справе не праведзены цалком вымогі Канстытуцыі. Паводле 3 артыкулу закону 31 ліпня 1924 г. аб беларускіх школах, які апіраецца на 109, 110, 118 і 119 артыкулах Канстытуцыі і з іх выплывае, беларуская ўрадовая школа павінна быць адчынена ўладаю там, дзе сярод насяленьня ёсьць ня менш, як 25% (чацьвёртая часьць) беларусаў і дзе гэтага зажадаюць бацькі ня менш, як 40 дзяцей у школьным веку (ад 7 да 14 гадоў). Закон гэты адносіцца да Навагрудзкага ваяводзтва — паветы: Валожынскі, Стаўпецкі, Лідзкі, Навагрудзкі, Слонімскі і Нясьвіскі; Палескага ваяводзтва паветы: Лунінецкі, Пінскі, Косаўскі, Пружанскі, Драгічынскі, Кобрынскі, Столінскі і Берасьцейскі; Віленскага ваяводзтва паветы: Сьвянцянскі, Дзісьненскі, Дунілавіцкі, Вялейскі, Ашмянскі, Троцка-Віленскі і Браслаўскі і з Беластоцкага ваяводзтва паветы: Горадзенскі і Ваўкавыскі. Закон, гэты, а асабліва высьненьні яго, выданыя знаным польскім шовіністым

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Зялёнае ўгнаеньне або сідэрацыя.

Усякі, хто гаспадарыў на пясчаных грунтох, ня мог не заўважыць, што расьліны заўсёды няроўна разьвіваюцца на гэтых грунтох. Звычайна, спачатку свайго жыцьця, пасевы выразьняюцца раньнім (і буйным) ростам, а пасьля адразу наступае рэзкі паварот. Расьліны пачынаюць вянуць, як-бы жаўцець і нарэшце пасевы даюць вельмі малы збор зярнят і саломы. Гэта бывае ад таго, што каранёвая сыстэма расьлін даходзіць да неўрадлівага падгрунту. Значыць, трэба падгатовіць углыбленьне грунту, або орнага пласта зямлі, што дасягаецца больш глыбокаю оркаю і адначасна даецца досіць хлеўнага гною або зялёнага ўгнаеньня.

Самая штука зялёнага ўгнаеньня ці сідэрацыя палягае на тым, што вядомыя азотазьбіральныя расьліны, ня звозяцца з палёў, а тут-жа заорваюцца на месцы тады, калі яны найбольш разрастаюцца. Дзеля гэтае мэты больш за ўсё падходзяць матыльковыя расьліны, якія маюць магчымасьць браць з паветра свабодны азот і перарабляць яго ў арганічную матэрыю. Найбольш прыгоднымі расьлінамі для зялёнага ўгнаеньня на гліністых і сугліністых грунтох будуць— чырвоная канюшына, віка, гарох і бобы; на перагнойных грунтох — грэчка, (хоць яна і не з матыльковых), а на пясчаных грунтох —лубіны, пясчаная віка і пясчаны гарошак, (пялюшка і сарадэля). Першы, хто зьвярнуў увагу на тое, што ўсе матыльковыя абагачаюць зямлю азотам, гэта быў Шульц-Люпіц ў 1881 годзе, вось дзеля чаго і свой назоў адтрымаў лубін. Ужо пасьля аграном-хімік Гэльрыгель высьвятліў пытаньне, што галоўным чынам, гэтак званыя, бактэрыі, якія знаходзяцца ў вузелкох на карэньнях усіх матыльковых расьлін, маюць здольнасьць перарабляць азот з паветра. Вось дзеля чаго лубіны лепш адразу ўдаюцца на тых грунтох, дзе зямля ўжо перад гэтым заражана бактэрыямі іх, або нават тою зямлёю, на якой ужо расьлі матыльковыя расьліны.

Калі хочуць, каб адразу ўдаўся лубін там, дзе яго сеюць першы раз, то робяць рассыпку прышчаплялльнае зямлі. Выходзіць, як-бы зьляпляюць зямлю. Бяруць тае зямлі, дзе раней рос лубін, якіх-нібудзь 2000—4000 кілегр. (125—250 пуд.) на адну дзесяціну, скопваюць гэтую зямлю на якіх 8 сант. і ў сухую пагоду трэба скора перавязьці і заарадь прышчаплялльную зямлю, інача́й зыркае сьвятло сонца губіць бактэрыі. Зялёнае ўгнаеньне праяўляе сваю моц ня толькі ў першы год, але нават на другі і трэці год. Адна дзесяціна, засеяная вясною зялёным угнаеньнем, дае больш як 200 пуд. сухое арганічнае матэры з 180 фунтамі азоту.

Чырвоная конюшына, пасеяная з гэткаю самаю мэтаю, дае больш як 200 п. сухое арганічнае матэры з 280 фунт. азоту. Сярэдні ўраджай лубіну дае 600—1200 пуд. зялёнае масы, у якой бывае 100—300 фунт. азоту, тады, як пры ўгнаеньні гноем з хлява нават у ліку 1800 пуд. на дзесяціну, што

---

Станіслазам Грабскім за бытнасьць яго міністрам асьветы, абцінаюць права беларусаў на беларускую школу.

„Асобныя дзяржаўныя законы забясьпечаць беларусам у Польскім гаспадарстве поўнае і вольнае разьвіцьцё іх нацыянальных асаблівасьцяў“. Поўнае і вольнае, кажа Конституцыя, а закон 31 ліпня 1924 г. г. зв. языковыя ўставы ўводзяць два вымаганьні, ад якіх перад усім залежыць, ці школа беларуская можа быць адчынена, ці не: 1) сярод насяленьня мае быць ¼ беларусаў і 2) павінны жадаць такое школы бацькі 40 дзяцей у школьным веку. Сьцьвярдзіўшы гэную неадпаведнасьць паміж Конституцыяй і законам 3 ліпня 1924 г., трэба сказаць, што жыцьцё і практыкаваньні школьных інспэктароў і кураторыяў яшчэ больш расходзяцца як з Конституцыяй, так і з законам 3 ліпня 1924 г. З багаславенства Ст. Грабскага, б. міністра асьветы, павадыра эндэцкае партыі ў Польшы, які сваімі высьвятленьнямі языковых уставаў прыхільней патрактаваў жаданьне польскае школы, а перад усім загадаў уводзіць двуязычныя (утраквістычныя) школы там, дзе павінна быць школа беларуская, усе школьныя ўрадоўцы напрыхільна аднясьліся да загарантаванага для нас і Конституцыяй і законам аб школах з 31.VII 1924 г. права на беларускую школу. Паводле высьвятленьня гэтага закону кожны бацька, а калі ён памёр, матка, і калі абое памёрлі, праўны (устаноўлены міравым судзьдзёю) апякун, які жадае, каб яго дзіця вучылася ў беларускай школе, падае свайму павятоваму Школьнаму Інспэктару асобна ад сябе дэкларацыю з уласнаручным подпісам, засьведчаным валасным войтам, або Старастваам, Міравым Судзьдзёю, ці натарыюсам. Заверыўшы свой подпіс на дэкларацыі ў валасьці, гэныя дэкларацыі трэба здаць праз поўнамоцніка пад расьпіску Школьнаму Інспэктару да 31 сьнежня кожнага году. Калі ў школьнай акрузе, г. зн. ў вёсцы, ці некалькіх вёсках, дзе, паводле школьнага пляну, няма ніякае школы, такіх дэкларацыяў будзе пададзена ня менш, як на 40 вучняў, і калі ў гэты час у той-жа акрузе ня знойдзецца бацькоў, або іх будзе менш, як на 20 дзяцей, якія-б хацелі вучыць папольску, то ўлада мусіць адчыніць у гэтай акрузе беларускую школу.

Закон 31.VII 1924 г. для беларускае школы вымагае 40 дэкларацыяў, на польскую хватае толькі 20. Беларусы маюць карацейшы час для складаньня гэных дэкларацыяў, тады калі дэкларацыі на польскую школу складаюцца ў працягу даўжэйшага часу. Конституцыя кажа ў арт. 96: „Усе грамадзяне зьяўляюцца роўным

вельмі рэдка бывае, і то толькі ўносіцца ў грунт да 245 фунт. азоту.

Высяваюць лубіну на дзесяціну 9 — 15 пуд. Сеяць лубін ня трэба рана вясною, пакуль не прайдуць прымаразкі. Трэба памятаць, што насеньне лубіну, якое мае ў сабе шмат алею, лёгка псуецца, загніваець, дзеля гэтага лубін на насеньне лепш трымаць у стручкох, кладучы яго ў копы і перакладаючы саломаю. Вельмі добра перад высевам насеньне лубіну перацёрці з пяском, бо шмат бабоў лубіну не набрыньвае і не прарастае. У сухую і ветраную пагоду падчас пасеву лубін трэба закрываць трохі глыбей, іначай шмат насеньня лопае і ня ўсходзіць. Лубін дае ад 50—120 п. зярнят і зялёнае масы 600—1200 п. з дзесяціны.

Многа даваць зярнят лубіну ў корм быдлу або коням вельмі шкадліва, бо ад лубіну жывёла хварэе на гэтак званую хваробу „лупіноз“. Трэба даваць ня больш як 4 — 5 ф. на галаву і то перад гэтым бобы павінны быць вымачаны ў працягу 3-х дзён у бягучай вадзе. Па заорцы лубіну ніколі ня радзіцца зараз-жа сеяць жыта ў пульхную, яшчэ не асеўшую, зямлю. Трэба заорваць лубін па крайняй меры за 3—4 тыдні перад пасевам жыта.

Гатункаў лубіноў налічваецца некалькі, з якіх найбольш распаўсюджаны: сіні лубін—(Lupinus angustifolius), прывезены з Гішпаніі, жоўты лубін — (Lupinus luteus), які прывязьлі з вострава Сыцыліі. Яшчэ ёсьць белы лубін, але ён занадта вымагае добрых грунтоў і малаўраджайны, а дзеля гэтага ня так распаўсюджаны. Для мясцовасьці Беларусі лепш падходзіць сіні лубін, чым жоўты, бо хаця ўраджай сіняга лубіну бывае часамі трохі меншы, як зялёнае масы, але на адзінку грунту дае ён больш азоту. Сіні лубін мае лепшую каранёвую сыстэму, менш вымагае ад клімату і грунту. Самае-ж важнае, што сіні лубін лёгка мірыцца, калі ў грунце ёсьць вапна, чаго ўжо зусім ня зносіць жоўты лубін.

Трэба заўважыць, што многакротная, ў працягу якога дзесятка гадоў, сяўба лубіну, як зялёнага ўгнаеньня, без перамешкі з гноем, вельмі ссушвае зямлю і даючы перавытвар азоту, прыводзіць да таго, што салома ў жыта хаця расьце і добрая, але чым далей— зярняты жыта будуць горшыя, тонкія, як-бы сьпечаныя, што бывае ад таго, што ў зямлі не хапае фосфару і калі.

Каб мець самыя лепшыя рэзультаты ад зялёнага ўгнаеньня, трэба абавязкова пад лубін даваць штучныя гнаі, да 12 пуд. калійнае 30% солі і да 24 пуд. томасшляку (фосфару), і калі гэты лубін будзе прыораны, а на ім пасеецца жыта, то вырасьце надзіва. Лубін трэба заорваць няглыбока, каб лепш перагніваў, але старанна закрываць зямлёю.

Сарадэля, (або птушаножка)—(Ornithopus sativus), адносіцца да матыльковых, гэтак-жа прывезена з Гішпаніі. Мае вельмі добрую каранёвую сыстэму, але першы год расьце слаба. Вымагае добрае абработкі і падгатоўкі зямлі, бяз пырніку. Насеньня бярэцца ад $2^1/_2$—да 4 п. на дзесяціну.

*Я. Х.*

---

перад правам“. Права на школу ў роднай мове ёсьць адным з найважнейшых. А ў параграфе 126 Констытуцыі чытаем, што ўсе правілы і законныя пастанаўленьні, нязгодныя з Констытуцыяй, ня могуць быць утрыманы.

Усё-ж такі, ня глядзячы на недахопы языковых законаў, яны даюць нам праўную падставу дамагацца і мець школу ў роднай беларускай мове. Беларускае сялянства даказала, што гэтае школы жадае, бо былі зложаны дзесяткі тысяч дэклярацыяў, у якіх бацькі дамагаліся для сваіх дзяцей навукі ў роднай мове. І на будучыну, калі мы хочам здабыць і захаваць пашану для сябе, для імя беларуса, дык павінны ўсе, як адзін, беларускае пачатковае ўрадовае школы дамагацца.

Пры гэтым трэба ведаць, што ў дамаганьні сваім беларусы ані не пераступаюць права і закону, наадварот—апіраюцца на выданых польскім правадаўцай законах: Констытуцыі і Уставе з 31 ліпня 1924 г. Войт **абавязаны** подпіс на дэкляpацыі сьцьвярдзіць, на гэта ён пастаўлены войтам, і закон гэны абавязак на войта накладае.

Таксама Школьны Інспэктар **павінен** ад поўнамоцніка дэкляpацыі прыняць і на гэта выдаць яму паквітаваньне. Ідучы далей, трэба сказаць, што ўлада **павінна**, маючы 40 дэкляpацыяў, у акрузе беларускую школу адчыніць.

Гэтага вымагае права, якое ў дзяржаве, калі яна хоча быць сільнай, шанаваць правапарадак і такой пашаны вымагае ад грамадзян, павінна абавязваць і грамадзянства і дзяржаву, як такую. Дамагаючыся школы ў роднай мове, беларусы спаўняюць такі самы грамадзкі абавязак, як гэта робяць, калі плацяць падаткі, або даюць сваіх дзяцей у войска. Жадаючы беларускае ўрадовае школы, беларусы выступаюць у абароне сваіх правоў, а таксама правапарадку ў дзяржаве. Законы выдаюцца не на тое, каб іх не выпаўняць, а каб сіле і павазе іх падпарадкавацца. Закон абавязуе перш за ўсё ўрадоўцаў, у нашым пытаньні— школьную ўладу.

Нажаль, дагэтуль рабілася інакш. Дамаганьне беларускае школы асобамі, праўна бязграматнымі і дзеючымі на шкоду Польскае Рэспублікі, прымалася за процідзяржаўную дзейнасьць. Войты са згоды іх беспасярэдняга начальства-старастаў—не падпісвалі дэкляpацыяў, Школьныя Інспэктары ня прымалі іх, а ўлада на дэкляpацыі беларускіх школаў не адчыняла. У народзе паўставала думка—чаму так дзеецца? Што

## Перахоўваньне збожжа.

У часе апошняе вайны перакаваліся, што найлепей перахоўваецца збожжа, ляжачае ў гурбах на 1 мэтр вышыні. Выняткова яго можна перахоўваць у гурбах на $1^1/_2$ мэтра вышынёю. Збожжа, якое ляжыць у вышэйшых гурбах, перахоўваецца блага і лёгка паддаецца псаваньню. Падлога і сьцены павінны быць зроблены з зусім здаровых дошчак, шчыльна ўложаных. Праз паложаную на высокім фундамэнце падлогу збожжа не працягвае вільгаці з зямлі і да яго цяжэй дабрацца мышам. Каб падлога была сухая, дык у фундамэнце павінны быць вокны, заслоненыя сеткаю з дроту. Праз гэтыя вокны павінен быць праветрыць паветра, а праз сеткі ня ўлезуць мышы.

Страха ў сьвірні павінна быць шчыльная, бо дзе будзе зацякаць, дык там збожжа псуецца. Столь таксама павінна быць з шчыльных дошчак. Калі ёсьць перагародкі, дык павінны быць зроблены з дошчак, шчыльна ўложаных. Вокнаў у сьвірне не шкадаваць, бо сьвятло, а асабліва сонца, робіць збожжа здаравейшым, а дзе ў сьвірне цёмна і вільготна, там ня толькі стухнецца збожжа, але шкодвікі гэтак размножацца, што земляроб ня можа даць ім рады, і яны шмат збожжа зьнішчаць. Вокны павінны быць вялікія з моцнымі жалезнымі кратамі, каб праз іх не маглі залезьці ў сьвіран зладзеі; у вокнах павінны быць падвойныя рамы: адны з шыбамі, дзеля зачыняньня іх падчас дажджу, сьнегу і г. д., каб вады не найшло ў сьвіран і ў ім было відно прапаваць. У пагоду закладаць рамкі з густою драцяною сеткаю, каб прадуваў вецер, а вераб'і і іншыя птушкі не маглі залезьці ў сьвіран. Радзіцца на-нач зачыняць вокны ў сьвірнах дзеравяннымі вакяньніцамі, якія павінны быць з сярэдзіны.

Велічыня сьвірна павінна быць гэткаю, каб у ім магло зьмясьціцца ня толькі ўсё збожжа, а было яшчэ месца і для яго перабіраньня. Пры благім перахоўваньні збожжа саграваецца, плясьнее і псуецца, а зн. робіцца няўжывальным. Нават і добра перахоўванае збожжа губляе сваю вагу па прычыне дыханьня і выпарваньня вады. Жыта і пшаніца, пры найлепшым перахоўваньні іх, губляюць 3% свае пачатковае вагі пры ляжаньні цэлы год у сьвірні, ячмень і авёс $3^1/_2$%, етручковыя 6%, а рэпныя і іншыя алеістыя па 12—15%.

## Загатоўка фруктаў, ягадаў і фруктовага віна.

Апрача загатоўкі грыбоў, гаспадар павінен паклапаціцца загатовіць на зіму фруктаў і ягадаў, а калі яшчэ гаспадар мае свой садок, дык магчыма зусім мець і фруктовае віно. Як-жа прыемна будзе гаспадару, калі ўзімку за вакном загудзіць вецер і ў такт яму затанцуець мяцеліца, а гаспадар у хаце, дзеля пачастунку гасьцей, зьявіцца з яблыкамі ці з ягадамі. Аж зьдзівяцца госьці гэтакаму пачастунку!

Як-жа маем захоўваць узімку фрукты, ягады і здабыць фруктовае віно? Захоўваньне ўзімку фруктаў у натуральным відзе робіцца ўсім ведамым спосабам. Здымаюцца з дрэваў яблыкі асьцярожна, каб не абабіць. Зьёмка фруктаў мусіць быць у сухую пагоду. Гэткія яблыкі складваюцца ў склепе ці ў варыўні на паліцах на пасланую салому адзін каля аднаго. Калі яблыкі будуць укрыты ад марозу, дык праляжаць цалюткімі аж да вясны. Кладуць яблыкі ў жыта, але гэткі спосаб на практыцы не ўдаецца, бо амаль ня кожны гаспадар, у сілу неабходнасьці, да вясны, зьесьць захаваныя яблыкі разам з жытам. Гэткі спосаб перахоўкі яблыкаў

---

гэта за права, якое не выпаўняецца, хоць выдана і не адменена? І народ трaціў пашану да права і лічыў сябе скрыўджаным. Гэтым спосабам беларускае насяленьне, з грамадзкага боку гледжаньня, дэмаралізавалася, а разам з гэтым набірала погляду на ўрадоўцаў і цераз іх на дзяржаву, як на тых, хто бясправўна крыўдзіць беларусаў. Лад і сіла ў дзяржаве будуецца на прывязанасьці насяленьня да дзяржавы, на пашане да ўсяго, што носіць урадовы характар.

Мудры ўрад — гэта заўсёды павінен мець на ўвазе, сіла, цьвёрдая ўлада, аб якой так часта гаворыцца, не вытварае спайкі паміж насяленьнем, і дзяржавай, калі не шануецца права самімі ўрадоўцамі. Народ замаўкае, але гэта маўчаньне носіць у сабе момант раскладу для дзяржавы. Прынукай, цяразнымі судамі, гвалтам могуць правіць і ідыёты. Нажаль, у школьным пытаньні ў Заходняй Беларусі, ў ненармальнасьці палажэньня, калі школа ня вучыць (бо вучыць у чужой мове, як кажа пэдагогіка, нельга), а мучыць, не разьвівае любоў да дзяржавы, а выклікае непрыязьнь, не ўзгадоўвае дзяцей, а псуе іх, калі няма ў нас беларускіх пачатковых школаў, уся віна на старане ўрадовых дзейнікаў, як цэнтру ў Варшаве, так сама і на мясцох.

Трэба верыць, што ўрэшце гэны самаабман, процідзяржаўная палітыка ўраду ў школьнай справе ў Заходняй Беларусі будзе пакінута і будуць заспакоены слушныя правы беларускага працоўнага народу, які гэтага чакае. Вымагае гэтага справядлівасьць і дабро Польскае Рэспублікі.

Верачы ў гэта, беларусы ня могуць аставацца бязьдзейнымі. За свае грамадзкія правы, за элемэнтарнае права на добрую школу, якая-б вучыла, разьвівала і ўзгадоўвала дзяцей на чалавека і грамадзяніна, здольнага разьбірацца ў акружаючым яго сьвеце і абставінах новага жыцьця, мусяць беларусы змагацца. За намі гарантыя Констытуцыі і права. Гэта не процідзяржаўная работа, а якраз найлепш зразумелы грамадзкі абавязак і патрыятызм грамадзяніна Польскае Рэспублікі. Хай будзе ўшанована права— вось што кажам мы, дамагаючыся беларускае школы.

*Сауліч.*

магчыма будзе толькі тым гаспадаром, у каторых трашчаць аруды ад збожжа. Перахоўваньне яблыкаў у попеле добра ўдаецца. Яблыкі ня псуюцца аж да Сёмухі, але гэткія яблыкі губляюць свой натуральны смак, бо аддаюць лугам.

Апрача перахоўкі яблыкаў узімку ў натуральным відзе, загатаўляем мачоныя. Робіцца гэта вось як: бярэм цэбар ці бочку велічынёй, якая патрэбна для гэткае мэты, кладзём на дно кропу і лісту чорнага смуродніку, на каторыя ўкладаем яблыкі адзін каля аднаго радкамі аж да верху, перасьцілаючы гэтыя радкі яблыкаў гэтак сама кропам і лісьцём чорнага смуродніку. Можна пасыпаць кміну. Для мачэньня яблыкаў найлепей падойдзе „Антонаўка". Калі ўжо яблыкаў поўная бочка, наліваем туды сьцюдзёнае вады, у каторую ўсыпаем на кожнае вядро вады па адным хунце цукру і $^1/_8$ хунта солі. Наліваецца вады столькі, каб націснуўшы яблыкі (як капусту) вада стаяла паверх яблыкаў ня менш, як на два вяршкі. Цераз колькі дзён, калі яблыкі ўсмокчуць у сябе гэты расол, трэба падліць яшчэ гэткае вады і кожны раз падліваць аж пакуль вада ня будзе ўбаўляцца паверх яблыкаў. Цераз паўтара альбо два месяцы будуць яблыкі гатовыя для яды. Гэты спосаб мочыва яблыкаў самы выгадны, бо гаспадар будзе мець зусім крэпкіх яблыкаў аж да Сёмухі.

Амаль не апошнія **в а с е н ь н і я я г а д ы**—гэта **б р у с ь н і ц ы**, каторыя могуць загатаўляцца на зіму ў мочаным відзе. Загатоўка іх зусім простая. Прынесеныя з лесу ягады перабіраюцца ад рознага сьмяцьця, перамываюцца ў сьцюдзёнай вадзе і ўсыпаюцца ў судзіну, якая падрыхтоўваецца для гэткае мэты. На кожнае вядро вады кладзём два хунты цукру і дзьве лыжкі солі. Ваду трэба заварыць, а калі астыне, заліць брусьніцы гэтаю вадой. Хто любіць пах цынамону, альбо гвазьдзікі, хай паложыць крыху кусочкамі ў брусьніцы. Можна палажыць некалкі гарошынак перцу. Вот і ўся працэдура з брусьніцамі. Захоўваюцца гэтак сама ў склепе ці ў варыўні.

**Я к с у ш ы ц ь ф р у к т ы і я г а д ы**, апісваць лічу лішнім, бо гэты спосаб кожнаму ёсьць ведамы. Аб тым, як варыць варэньне і мармаляды, таксама апісваць няварта, бо гэтыя штукі патрабуюць большага расходу, дык нашага брата, селяніна, да гэтае працы не заахвоціш.

Апошнім пытаньнем гэтага артыкулу зьяўляецца тое, **я к р а б і ц ь з ф р у к т а ў в і н о?** Як выраблююць з фруктаў віно на пастроеных для гэтае мэты заводах, апісваць ня буду. Зазначу толькі самы просты спосаб вырабкі віна. Возьмем розных фруктаў—яблыкаў і груш, зьдзярэм на тарцы гэтак, як дзяруць бульбу, калі прыгатаўляюць яе на пірагі ці бліны, выціснуўшы сок працадзем праз палатно і дайма, каб сок адстаяўся. Калі асадкі ўсе на дне, трэба зьліць яго ў звычайныя бутэлькі, ў каторыя загадзя насыпаецца па $^1/_4$ хунта дробнага цукру. Бутэлькі з сокам трэба каб стаялі ў хаце да тэй пары, пакуль цукар у бутэльках не растанець, тады можна выньясьці іх у варыўню і расставіць па паліцах, дзе і застануцца на ўвесь патрэбны час. Закаркоўваць бутэлек нельга да тае пары, пакуль ня будзець праз шыйку ісьці шум (пена), а каб не папала ў бутэлькі якое-нібудь сьмяцьцё, дык прыкрываем лёгка рызьзём. Месяц альбо два праз шыйку бутэлькі будзе ісьці шум. Калі ў бутэльцы ўжо перастануць хадзіць то ўверх то ўніз пузыркі і з шыйкі ня будзе выплываць шум, трэба бутэлькі закаркаваць і абвязаць туга рызінкамі. У гэткім палажэньні віно застаецца колькі месяцаў і ня менш чатырох ад часу закаркаваньня бутэлек. Калі-б гэткае віно ўдалося выдзяржаць год ці два, дык гэткім яно робіцца смачным і пахнючым — здаецца нічога няма лепшага на сьвеце!

На выпадак хваробы чалавека ня лішне мець у запасе, для падкрапленьня хворага, бутэльку-другую гэтага віна.

Даючы гэтых колькі парадаў, напасьледак зазначаю, што ніколі ня трэба адкладаць работы на заўтра, каторую магчыма зрабіць сягоньня.

Дык, хай кожны аб гэтым падумае і хутчэй да працы, каб нам у доўгую сьцюдзёную зімку было чым пахваліцца.

*Янка Тарыкоў.*

# Натуральная гісторыя пчалы.

Кожны пчаляр павінен знаць жыцьцё пчалы. Аб гісторыі пчалы, аб яе жыцьці шмат пісалася і я ня буду тут шырока разводзіцца, а пастараюся закрануць толькі неабходныя рэчы, каторыя павінен ведаць практычны пчаляр.

Здаровая пчаліная сям'я ў пачатках раеньня складаецца з пладавітае здаровае маткі, некалькіх сотняў трутняў і прыблізна ад 20 да 25 тысяч пчолак-работніц.

Матка ёсьць добра разьвітай саміцай. Яна кідае яечкі ў чарачкі вузы, з каторых выводзяцца пчолкі. Яечкі маткі бываюць двух гатункаў, з адных выходзяць трутні-самцы, а другія пры звычайным кармленьні пяргою, мёдам і вадою, зьмешанаю па роўнай часьці пчоламі і творачай гэтак званае „пчалінае малако", даюць пчолак-работніц, каторыя ёсьць ні што іншае, як недасьпеўшыя саміцы. Тыя самыя яечкі пры кармленьні чыстым мёдам, даюць праўдзівых саміц-матак.

Матка звычайна жыве ад трох да чатырох гадоў і адрозьніваецца ад звычайных пчолак-работніц і ад трутняў формаю, разьмерам і колерам цела, яна даўжэйшая і танчэйшая за пчолак-работніц і за трутняў, крыльля ў яе гэтак сама каротшыя.

У кожным вульлі ёсьць, з малымі выняткамі, толькі адна матка, а маладыя маткі выводзяцца тады, калі прападзе старая матка, калі вулей гатовіцца да рою, альбо калі матка зусім пастарэе і становіцца няплоднаю. Цераз два альбо тры дні, ці найдалей цераз пяць дзён па выхадзе маткі з матачніка, яна вылятае з вульля, каб пагуляць і злучыцца з трутнем. Аднаго злучэньня маткі з трутнем бываець даволі для маткі на ўсё жыцьцё і дзеля гэтае мэты яна ўжо больш не вылятае з вульля, толькі ў тых выпадках яна пакідае вулей, калі вылятае з першым роем (першаком), бо трэба ведаць, што з большасьці выпадкаў з першаком заўсёды вылятае старая матка.

Калі матка часам прыпадкова памрэць, альбо становіцца няплоднаю, а на пасецы ёсьць трутні, і ў вульлі ёсьць яечкі, заложаныя на пчол-работніц, то тады пчолы-работніцы, каб вывясьці сабе матку, робяць дзе-нібудзь з боку, альбо на канцы вузы, большую гарачку г. зв. матачнік, кладуць туды болей чыстага мёду і з гэтага-ж самага яечка ня выходзіць ужо пчала-работніца, а матка. Калі-ж у вульлі ня знойдзецца яечак, з каторых выходзяць работніцы, то матачнікі робяцца з трутнёвых чашачак, але яны не даюць матак. Гэтыя трутнёвыя матачнікі на пагляд гладзенькія, ў той час, калі праўдзівыя матачнікі заўсёды шарпаватыя. Гэты клопат пчолак вывясьці матку тлумачыцца тым, што пчолы наагул ня могуць існаваць без яе і калі яе ня вывядуць, дык прапа-

даюць марна, альбо разьлятаюцца, альбо так гінуць. Вось-жа, калі ў вульлі здарыцца гэтакі выпадак, у калодзе гэта трудна прыкмеціць, дзеля таго, што мы ня можам разглядзець гнязда і ўбачыць, ці ёсьць там матачнік, а гэтым самым ня можам памагчы пчолкам у іх цяжкім палажэньні, а ў рамовым вульлі гэта лёгка адгадаць, бо гняздо ў нас заўсёды на воку і калі мы ўбачым, што там няма маткі, альбо калі там закладзены трутнёвы матачнік, то трэба яго добра выразаць і даць у гэты вулей запасную матку, катораяя ў добрага практычнага пчаляра заўсёды павінна знайсьціся. Толькі трэба глядзець, каб гэтая матка ня была г. зв. «трутнёваю». Бо часам матка, па якой-небудзь прычыне ня бывае злучаная з трутнем, дзеля таго яна кладзець яечкі толькі трутнёвыя, ад якіх пчаляру ведама-ж зусім мала ёсьць карысьці.

Матка можа класьці ад двух да трох тысячаў яечак у дзень. Найболей кладзе яечак на другім годзе жыцьця, а пасьля пачынае класьці менш, ад старасьці г. е. на чацьвёртым годзе, яна ўжо пачынае класьці толькі трутнёвыя яечкі, дзеля гэтага кожны пчаляр павінен збавіцца ад гэтае старое маткі, замяніўшы яе другою—маладзейшаю.

Трутні таўшчэйшыя за маткі і даўжэйшыя за работніцы. Жала яны зусім ня маюць. Нічога ня робяць, а толькі ядуць мёд. Падчас раеньня трутні аднак-жа неабходныя, дзеля таго, што матка пры вылеце з роем павінна злучыцца з трутнем; к канцу лета пчолы самі збаўляюцца ад гэтых дармаедаў, выганяючы іх вон з вульля, і яны гінуць.

Пчолы-работніцы робяць усю работу ў вульлі. Зьбіраюць мёд і хаваюць запасы, робяць вузу, кормяць і абараняюць матку і ўсё гняздо. У летнія месяцы, калі пчолкам прыходзіцца выпаўняць трудныя работы, яны жывуць усяго ад шасьцёх да васьмёх тыдняў; а пчолкі выведзеныя ўвосень пераживаюць зіму і вясною выпаўняюць усе работы. З яечка, палажанага маткаю ў прыгатованую пчоламі чарачку, цераз тры дні выходзіць чарвячок. Чарвячка гэтага пчолкі кормяць да дзевятага дня. За гэты час ён робіцца большым і пчолы яго запячатваюць, наклаўшы туды „малачка“. Цераз кароткі час з чарачкі выходзіць праўдзівая пчала.

Пчолы-работніцы выходзяць на дваццаць другі дзень па палажэньні яечак, трутні на пятнаццаты, а маткі на пятнаццаты, альбо на восемнаццаты дзень. Добрым пчаляром заўсёды трэба запісваць той дзень, у які быў закладзены матачнік і паложана ў яго яечка, а гэта дзеля таго, каб ведаць прыблізна той дзень, у які матка выйдзе і з гэтай мэтаю пачаць пільнаваць рой, каторы, не дапільнаваўшы яго, можа ўцячы.

У вульлёх, дзе няма маткі і няма пчолкам магчымасьці вывясьці яе, пападаюцца часам такія звычайныя пчолы, каторыя выпаўняюць ролю маткі, г. зн. кладуць яечкі, гэтыя пчолы называюцца трутоўкамі, дзеля таго, што кладуць толькі трутнёвыя яечкі. Кладуць яны яечкі зусім няправільна па тры альбо па болей у адну чарачку, а некаторыя і зусім пакідаюць пустымі. А матка праўдзівая кладзе яечкі правільна—па адным у кожную чарачку, пры гэтым не пакідаючы амаль пустых. Пакуль ёсьць праўдзівая матка, то пчолы трутовак бязьлітасна забіваюць.

*Пчаляр.*

## Гаспадарчыя парады.

### Кансэрваваньне памідораў.

Адна з нямецкіх часопісяў падае спосаб кансэрваваньня памідораў, радзячы яго, як вельмі добры, танны і выпрабаваны. У паліваны гліняны гаршчок гэткае велічыні, каб у ім зьмясьцілася $2^1/_2$ кілёграмы памідораў, кладуцца сьпелыя, але не перасьпелыя памідоры, добра абцёртыя. Пасьля памідоры залліваюцца халоднаю рошчынаю пераваранае салёнае вады, бяручы на літр вады 60 грам. солі. Памідоры накрываюцца чыстым куском палатна і на іх кладзецца талерка, якою памідоры трымаюцца ў вадзе. Гаршчок завязваецца пэргамэнтнаю папераю. Палатно трэба час ад часу зьнімаць і паласкаць у чыстай вадзе.

Вельмі добра перахоўваюцца памідоры „сьвежымі“ і іншым спосабам: памідоры кладуцца ў дзераваныя каробкі, завінаючы кожны памідор у тонкую паперу і перасыпаючы торфам так, каб адзін да аднаго не датыкаўся.

### Шмараваньне збруі.

Калі конская збруя намокне, дык павінна быць на-суха выцертай і нашмараванай пастаю, якая прыгатаўляецца гэтак: $^1/_2$ літра алею ператапіць з $^1/_4$ кілёгр. чыстага лою і гэтым шмараваць збрую, каб скура набрала клустасьці.

### Што рабіць па гаспадарцы ў Верасьні.

**Земляробства.** Заворваць іржышча. Араць на «зяб». Вывозіць і заворваць гной пад яравыя расьліны. Падрыхтоўваць канюшынішча пад засеў лёну, жыта, аўса, ячменю і інш. Наглядаць за ўсходамі зімовага збожжа. Разабраць і перачысьціць сельска-гаспадарчыя машыны, схаваць іх на зіму. Малаціць. Хаваць бульбу і караньплоды ў ямы і паграбы.

**Жывёлагадоўля.** Адбіраць і выкормліваць сьвінак. Злучваць авечкі, каб яны ўзімку акаціліся.

**Садоўніцтва.** Акапаць навокал камля дрэвы. Зьнішчыць шкадлівыя травы, асабліва шмат-гадовыя (пырнік). Угнаіць дрэвы мокрым угнаеньнем, каб на вясну зьявіліся плодавыя пучкі. Зрэзаць гальлё, паламанае пры зборы садавіны. Налажыць ліпучыя перавяслы супроць зімовай пядзеніцы.

**Птушніцтва.** Птушкі ліняюць. Трэба берагчы іх ад вільгаці, трымаць у чыстаце. Дадаваць да корму дробленых костак, шкарлупу з яек. У гэтым месяцы—найманцейшыя яйкі для хаваньня.

## Як палепшыць апрацоўку глебы.

Перш за ўсё трэба прымусіць сябе рабіць усе працы ў час, — ужо адно гэта значна ўзьніме ўраджай. Трэба помніць, што ўвесну з адным конікам нельга пасьпець зрабіць у час усю працу і зрабіць правільна. Селянін заўсёды позьніцца з вясновымі працамі, а гэта значна зьмяншае ўраджаі ярыны. Каб палегчыць веснавыя працы, трэба абавязкова апрацоўваць глебу ўвосень, зябліць. Такая апрацоўка дае вялікую карысьць: узоранае на зіму поле добра выветраваецца, прамярзае, набіраецца паветра. Усё гэта вельмі паляпшае глебу. Калі ў глебе мала паветра, дык толку мала: расьліны будуць расьці слаба. Асеньняе-ж ворыва якраз і паможа часткам глебы набрацца паветра. Апрача таго, асеньняе ворыва заб'е шмат шкодных казюлек: яны на зіму хаваюцца ў верхнім пласьце глебы, а глыбокім ворывам увосень мы іх завернем так глыбока, што яны ўжо й ня выкараскаюцца. Мала таго, усе пажніўныя астачы пры такім ворыве трапяць у глебу і перапрэюць.

Аручы ўвосень, селянін палягчае сабе і веснавую працу: увесну такое ворыва яму прыдзецца толькі чуць узьняць. Такая праца будзе выканана ўдвойчы хутчэй, чымся звычайнае глыбокае ворыва. Зябліць асабліва карысна ў засушлівых раёнах: узоранае з восені поле вельмі добра ўтрымоўвае ўсю дажджавую вільгаць, увесь сьнег. І калі сьнег пачне таяць, дык уся вада зьбярэцца ворнай зямлёй. А з поля, якое ня зяблілася, большая частка сьнегавое вады зьбяжыць.

## Груда ў каровы.

**Пытаньне.** Карова больш як два месяцы кульгае на заднюю нагу. На калене ёсьць гуз, а ад калена да костачкі нага спухла. Побач з костачкаю ёсьць струп, а пад струпам заўсёды гніе, але матэрыя не цячэ. Прашу рады, як лячыць?

**Адказ.** Перш за ўсё трэба лячыць апісаныя ў пытаньні струпы і тыя месцы, якія псуюцца і завуцца грудай; гэта паўстае ад граэнага утрымліваньня ног. Хворыя месцы трэба ўсюды добра вымыць летняю вадою з мылам, пасьля добра абсушыць, а затым 2 разы ў дзень шмараваць цынкаваю масьцяй; перад кожным чародным шмараваньнем хворыя месцы выцерці ватаю і памазаць ёдам, а пасьля пашмараваць. Пад нагамі ў каровы павінна быць суха, ногі не павінны заглыбляцца ў гной аж да вылячэньня.

Гуз на калене два разы ў дзень націраць адным ёдам па некалькі мінут, а спухшую нагу ад костачкі да калена масаваць 2 разы ў дзень далонямі зьнізу ўгару, робячы нагу вільготнаю 3 проц. карболевым лянным алеем.

## Торф.

Торфу трэба запасьці як можна болей. Торф патрэбен і на падсьціл, каб атрымаць самы лепшы гной, торф патрэбен і каб прыгатаваць лепшае кампоснае ўгнаеньне, і ўрэшце, торф у чыстым выглядзе— вельмі добрае ўгнаеньне. Вельмі выгодна карыстацца торфам для перапластаваньня гною: калі чысьціць хлеў, кладуць пластамі па 4—6 вяршкоў у тоўшчу гной і торф. Ніжэйшы і верхні пласт павінны быць з торфу. Тады торф убірае ў сябе ўсю жыжку з гною, і ўгнаеньне атрымоўваецца вельмі моцнае. Вельмі добра дзейнічае торф і на глівістых і на лёгкіх глебах. Каб угнойваць адным торфам, яго трэба адпаведным спосабам падрыхтаваць. Дзеля гэтага вясной, пасьля засеву яравых, торф капаюць і складаюць кучамі, вазы па 3 ў кожнай. Каб кучы лепш перасыхалі, іх трэба перакоцваць разы два ў працягу лета. Пры гэтым разьбіваюць вялікія камы і перасыпаюць торф вапнай, або балотным мергелем. Угнаеньне торфам неперасушаным і неперасыпаным вапнай, альбо мергелем, ня толькі не прынясе карысьці, а нават пашкодзіць.

Тыдні за тры да засеву жыта торф вывозяць на поле, раскідаюць і праз тыдзень няглыбока заворваюць. Сухога і добра прырыхтаванага торфу на ўгнаеньне 1 дзес. папару трэба да 600 пуд. (30 вазоў).

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Аб летніх ганячках.

Мы ўжо ведаем, што назоў летніх ганячак даны цяжкім жалудачна-кішачным расстройствам у дзяцей. Гэтыя расстройствы ў найцяжэйшым выглядзе паўстаюць у пэрыяд летніх сьпёкаў і зьяўляюцца прычынаю павялічанае сьмяротнасьці дзяцей у гэтую пару году.

Мы ўжо закранулі справу папярэджваньня ганячак цераз ухіляньне ад шкадлівых уплываў сьпёкі. Дзеля таго, што была гутарка таксама і аб тым, што ў гэтых выпадках зьяўляецца бязьмерна важным адтрыманьне парады ад лекара, хочам сягоньня зьвярнуць увагу мацярок на найважнейшыя праявы гэтае грознае хваробы. Хвароба пачынаецца ў дзяцей вельмі часта зусім раптоўна. Здараецца, нарэшце, што дзіця ўжо раней выпаражнялася па некалькі разоў на дзень і ад часу да часу ванітавала: і ў гэтых, аднак, выпадках ударае раптоўная зьмена ў захаваньні і выглядзе дзіцяці. Ванітуе яно гвалтоўна, раз за разам, звычайна пасьля кожнага даваньня корму, альбо пасьля кожнага ссаньня. Адначасна зьяўляюцца вялікія, вадзяністыя, іншы раз вельмі сьмярдзючыя выпаражненьні—лік іх павялічваецца шпарка і даходзіць да некалькіх разоў і болей у пару. Стан дзіцяці шпарка пагоршваецца: вочы западаюць і абкружаюцца сіняю абводкаю, на галаве выразна ад'значаецца глыбока ўцісьненае цемячка, скура робіцца шараватаю, халоднаю, западаюць шчочкі, нос выцягваецца і рысы ў дзіцяці прымаюць выгляд старога. Язык сухі і сьпечаны, часта высоўваецца з рота, як быццам жадаючы вільгаці. Жывот бывае спачатку ўздуты, а пасьля спадаецца, а скура на ім моршчыц-

ца. Дзіця дыхае цяжка, робіццам што раз, то болей адураным, нарэшце вочы мутнеюць і часта ўжо пасьля некалькіх гадзін гэтага стану дзіця канчае жыцьцё. А калі падходзіць папраўленьне, дык дзіця звычайна вельмі памалу вяртаецца да здароўя і лёгка занядужвае на ганячкі і ваніты.

Гэтыя цяжкія расстройствы сваімі праявамі напамінаюць атручаньне, якое здараецца па ўжыцьці мыш'яку альбо пасьля атрутных грыбоў, ці пасованае каўбасы,—але таму што і тут прычына ляжыць найчасьцей у шкадлівым дзеяньні корму, цяпер называюць гэткія палажэньні вострым кармавым атручаньнем; даўней ім давалі назоў дзіцячае халеры, дзеля таго, што гвалтоўныя ваніты і вадзяністыя выпаражненьні бываюць і пры халеры.

Падробнае апісаньне гэтых цяжкіх расстройстваў у дзяцей ня мела мэты настрашыць матак; нават і найцяжэйшыя віды кармавых атручаньняў могуць скончыцца поўным выздараўленьнем дзіцяці. Дзеля гэтага ня трэба паддавацца роспачы і бясьсільна заломваць рукі,—гэта дзіцяці не паможа. Мудрая і разважная маці павінна з вышэйпаданага апісаньня выцягнуць гэткую навуку: раптоўныя ганячкі і ваніты ў летні час вымагаюць быстрага і ўмелага ратунку; а пакуль гэты ратунак можа быць даны, трэба ўстрымацца на некалькі гадзін ад кармленьня дзіцяці (як грудзьмі, так і штучна), спыняючыся на даваньні яму часта малых колькасьцяў (3—4 ложачкі кожных 1/2 гадзіны) пераваранае і астуджанае вады. Аб іншых спосабах асьцярожнасьці і папярэджваньня летніх ганячак пагаворым яшчэ ў чародным нумары.

(„Kultura“)

## Невядомая у нас галіна прамысловасьці.

Скураная прамысловасьць у нас праве ня існуе, бо ўсе скуры са зьверыны ідуць да Нямеччыны, пераважна ў Ліпск і толькі невялікая частка футраў вяртаецца да нас і прадаецца па высокіх цэнах.

Сырога матар'ялу вырабляць ня ўмеем, дык усялякія спробы зачыненьня вывазу за межы мусілі ня ўдацца. З гэтае прычыны першым крокам да разьвіцьця нашае скураной прамысловасьці, мусіць быць шырокае распаўсюджваньне ўмеласьці абработкі сырцу, бо гэтыя сакрэты трымае да гэтага часу праве непадзельна Ліпск; кожны нефаховец знаючы рэцэпты, лёгка можа на адной пробе выпраўляць: фарбаваць ліпскай сыстэмай скуры са зьвярыны, авечыя, казіныя, катовыя, сабачыя і прадукаваць будзе найлепшы тавар, што ўжо спраўджана.

Гэта можа стварыць вялізарны лік варстатаў працы і ня толькі ў вялікіх асяродках працы, але нават на вёсцы, дзе ў ваколіцах закуп скураў зусім мажлівы, а тым больш, што да закладзінаў такой майстроўні даволі пары сот злотых і адзін пакой.

Хто хоча азнаёміцца з гэтым фахам, можа мець перасланыя са зваротам кошту ўсе патрэбныя указаньні і рэцэпты, толькі трэба зьвярнуцца лістоўна да „Spółdzielni Rolniczo-Handlowej“, Lukow, ваявод. Lubelskie.

## Палітычныя навіны.

### Беларускія палітычныя арыштанты ў Б.С.С.Р.

Апрача Ф. Аляхновіча, які няведама за што асуджаны на 10 гадоў цяжкае турмы ў Салавецкім лягеры, у Менску арыштованы апошнімі часамі: Квач Павал, Матусэвіч М., Пашковіч М., Лебецкі, Драздоўскі, Галінскі. Усіх гэтых і іншых арыштованых будзе судзіць Найвышэйшы Рэвалюцыйны Трыбунал.

### Барбарскае забойства Сакко і Ванцэтті.

Пратэсты культурнага чалавецтва не ўратавалі засуджаных на сьмерць двух амэрыканскіх работнікаў Сакко і Ванцэтті. 23 жніўня, пасьля зацьверджаньня прыгавару найвышэйшым амэрыканскім судом, Сакко і Ванцэтті былі забіты ў Бастонскай турме. Прадстаўнік прэсы, якому дазволена было прысутнічаць пры экзэкуцыі, так расказвае аб апошніх мінутах жыцьця забітых анархістых:

Сакко быў белы, як палатно, але спакойны. Ішоў проста. Вочы яго гарэлі агнём. Як толькі сеў на электрычнае крэсла сьмерці, крыкнуў паітальянску: „Няхай жыве анархія“! Потым паангельску сказаў: „Бывай здарова, мая жонка, бывай здароў, мой сын, бывайце здаровы, мае прыяцелі“! Потым, зьвярнуўшыся да прысутных, сказаў: „Добрай ночы, паны“! Нарэшце крыкнуў: „Будзь здарова, мая маці“!

Ванцэтті ўвайшоў у пакой сьмерці халодны і спакойны, сьціснуў рукі двух даглядчыкаў і падышоў сам дам электрычнага крэсла. Тут ён пачаў гаварыць, што ён нявінны, але кат перарваў яго і надзеў на яго галаву шлем з электрычнымі правадамі. Апошнімі яго словамі былі: „Дарую некаторым людзям тое, што са мною робяць у гэтую мінуту“.

Забойства Сакко і Ванцэтті з прычыны іх нявіннасьці выклікае абурэньне ўва ўсім сьвеце.

### Дэманстрацыі ў Парыжы.

„Камітэт абароны правоў чалавека“ заклікаў усіх на дэманстрацыі, якія адбыліся перад амэрыканскім консульствам. Адначасна з гэтым левыя арганізацыі выпусьцілі адозвы, у якіх заклікаюць да байкоту амэрыканскіх тавараў.

### Пратэсты ў Бэрліне і Вене.

Уся прэса зьмясьціла артыкулы, у якіх ганьбіць амэрыканскі ўрад і суд, які вінен у сьмерці нявінных людзей.

## Крывавыя дэманстрацыі ў Жэнэве.

У зьвязку з забойствам Сакко і Ванцэтті, у Жэнэве адбыліся крывавыя дэманстрацыі, якія газэты называюць праўдзіваю рэвалюцыяй. Грамада дэманстрантаў нішчыла амэрыканскія склепы, кінематографы, спыняла самаходы „Форда". Шмат тавараў пакідалі ў ваду і затоплена. Рух прымаець выразны характар байкоту ўсяго амэрыканскага.

## Дэманстрацыі ў Паўднёвай Амэрыцы.

У г. Буэнос-Айрэс вялікі натаўп людзей узбураны весткаю аб забойстве Сакко і Ванцэтті хацеў уварваца ў дом пасольства Злучаных Штатаў. Паліцыя з вялікім трудом затрымала натаўп. Аб'яўлена 24 гадзінная забастоўка пратэсту ўва ўсіх вялікіх местах Паўднёвай Амэрыкі.

## Зьезд нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве.

Гэтымі днямі адчыніўся ў Жэневе зьезд нацыянальных меншасьцяў. Гэта ўжо трэці зьезд папарадку. Першы быў у кастрычніку 1925 году, другі 25 — 27 жніўня 1926 г. — год таму назад. Наогул, зьезды нацыянальных меншасьцяў становяцца рэгулярнымі, набіраюць вагі ў палітычным жыцьці, з працамі зьездаў пачынаюць лічыцца ў палітычных колах і дзеля гэтага беларускае грамадзянства павінна больш цікавіцца гэтай міжнароднай інстытуцыяй, чаго нажаль да гэтага часу ня было.

## Апошняе пісьмо Сакко да 14 летняга сына Дантэ.

„Я ня веру ніколі, што прыйдзецца мне растацца з табой, але пасьля 7-мёх гадоў гэтая балючая часіна настала. На нашай крыжавой дарозе шмат мы цярпелі, боручыся за свабоду. Ня плач Дантэ, бо ўжо і так шмат сьлёз надарма і без рэзультатаў праліта за нас, а перад усім праліла іх твая матка. Старайся быць пацехай для маткі. Памятай аб тым, што жыць маеш ня толькі для ўласнага шчасьця, але маеш абавязак памагаць слабым і пазбаўленым апекі, ўступацца за прасьледаванных так, як твае найлепшыя прыяцелі, твае таварышы, каторыя боруцца і гінуць па дарозе, так, я, твой бацька, як Бартолёмэо Ванцэтті, якія згінулі ў абароне свабоды. Хацеў-бы яшчэ раз цябе бачыць. З аднаго боку цешыць мяне, што пазбудзешся вобразу сьмяротнай барацьбы, якую мы тут вядзём, з другога боку было-б добра, калі-б ты мог прыглядзецца да казьні, каб пасьля выкарыстаць гэты страшны ўспамін заўтрашняга дня і стаць у обліку сьвету з закідам, скірованым процiў стогодзьдзя, каторае церпіць яшчэ такога роду барбарства. Гэта барацьба між багатымі і беднымі, якую толькі пасьля зразумееш. Пішу з дому сьмерці, каторы павінен быць зьбураны молатамі поступу, а на яго месцы павінен паўстаць варстат або школа для сірот.



# Аб усім патроху

## Гара, на якую забаронены доступ жанчынам.

Грэцкі ўрад выдаў новыя паштовыя маркі, на якіх прадстаўлена слаўная гара Атос (Афон). На вяршыне знаходзіцца 146 манастыроў, якія месьцяць у сабе аграмадныя багацтвы.

Скарбы гэтыя акружаны таямніцай і дарэмна вучоныя ўсіх краёў стараліся з'інвэнтарызаваць бібліятэкі гэтых манастыроў.

Мясцовыя манахі ня здольны кіраваць працамі. Рукапісы ляжаць у беспарадку пад густым слоем пылу. Прыпадкова выкрыты ў адным з манастыроў на гарэ Атос арыгінал баек Эзопа з розных твораў Віргілія. Згодна з легендай, пятае Эвангэльле знаходзіцца таксама ў адным з гэных манастыроў.

Доступ у манастыры на гарэ Атос вельмі жорстка забаронены жанчынам. Забарона гэтая настолькі жорсткая, што нават саміцы дамовае зьвярыны, як куры, козы, сукі і каровы выгнаны з манастырскае гаспадаркі.

## Колькі саюзьнікі выдалі на вайну з немцамі.

У справе коштаў, панесеных саюзьнікамі ў вайне з немцамі, не апублікована да гэтага часу афіцыяльнае статыстыкі. З розных, аднак, дробных працаў, выданых фірмаю „Банкерс Трост" у Амэрыцы і з розных дакладаў англійскіх, бэльгійскіх і італьянскіх, вынікае, што кошты вайны з немцамі раўняліся для Злучаных Штатаў Амэрыкі 8,381 мільён. даляраў; для Англіі 6 — 7 мільярдаў фунт. штэрл. (1 фунт шт.=10 залатых рублёў), для Бэльгіі 9 мільёнаў франкаў у золаце, для Італіі 64.210 міл. ліраў.

## Даўжыня чугуначнага шляху ўсяго сьвету.

У 1925 годзе даўжыня чугуначнага шляху на ўсёй зямной кулі раўняецца 1,220,375 кілёмэтраў, з іх на Эўропу прыпадае—382,484 кіл. (31,4%), на Азію—138,828 кл. (10,8%), на Афрыку—58,672 (4,8%), на Амэрыку—600,137 (49,4%) і на Аўстралію—42,257 кл. (3,5%).

## Сьпёкі і маразы.

Здаецца, што зямля зазлавала на людзкі род ды хоча страсьці яго з сябе. Да гэтае работы далучылася таксама і сонца, якое ў некаторых краёх неміласэрна пячэ і забівае людзей. Гэтак, вялікая гарачыня ў Эгіпце штодзенна пазбаўляла жыцьця сорак чалавек, прымусіўшы багатшых (ім усё ліха дзяцей калыша) сядаць на караблі і ўцякаць у халаднейшую Эўропу.

Ў Амэрыцы па местах былі страшныя сьпёкі, так, што часам памірала па 50 чалавек у дзень. У Савецкім Саюзе, у ваколіцах Мурманску, гарачыня даходзіла да 50 градусаў. Таксама ў Грэцыі пякло сонца так, што тэмпэратура ў цені выносіла больш як 50 градусаў. У Паўднёвай Амэрыцы, наадварот — здараліся сьнежныя завеі і буры.

## Найбольшыя рэчы на сьвеце.

Найбольшымі дрэвамі на цэлай зямлі ёсьць вялізарныя шпількавыя дрэвы ў Каліфорніі (Амэрыка),

якія маюць да 90 мэтраў вышыні. Адно з гэткіх дрэваў мае нават 107 м. вышыні й 30 м. абводу ў падставе.

Найвышэйшай пірамідай ў Эгіпце ёсьць пірамідa з каменя каля Гізэ, выбудаваная каралём Хэопсам. Яна мае 148 мэтр. вышыні. Будавалі яе 20 гадоў, а кошты, перачысьленыя на сяньняшнія грошы, выносяць каля 40 мільёнаў даляраў.

Найдаўжэйшым мостам ёсьць мост, які лучыць места Бруклін з Нью-Іоркам у Амэрыцы. Мост гэты мае $1^1/_2$ мілі даўжыні. Вісіць ён на дзьвёх вежах пры помачы чатырох мэталёвых ланцугоў, зложаных з 5434 роўнабежных дратоў, павязаных іншымі дратамі і можа дзьвігаць 12 тысячаў тон (тона 60 пуд.). У працягу гадзіны гэтым мостам можа прайсьці 45 тысяч пасажыраў ды праехаць 1440 цягнікоў. Будова гэтага мосту каштавала 15 мільёнаў дал.

Найбольшы звон мае Масква. Знаходзіцца ён у Крэмлі, мае вышыні 6 мэтраў, а шырыня ўнізе 7 мэтраў. Яго адлілі ў 1733 годзе на прыказ царыцы Анны.

Найсільнейшаю крэпасьцю на сьвеце ёсьць ангельская крэпасьць Гібральтар, якая замыкае ўезд на Сярод'земнае мора. Яе ахоўваюць патройныя, шырокія, проста вісячыя муры.

Найбагацейшы тэатр на зямлі Парыская Опэра, якую збудавалі коштам 35 мільёнаў франкаў.

Найбольшая і найясьнейшая ліхтарня на сьвеце— гэта ліхтарня ў Гаяь-Гадэ каля Асторыі ў Амэрыцы. Яна мае вышыні 76 м. і мае 9 электрычных лямпаў з сілаю 6.000 сьвечак кожная.

Найдаўжэйшы тунэль — гэта тунэль пад гарою Сьвяты-Готард у Тыролі, ў Аўстрыі. Тунэль гэты даўжынёю ў $9^1/_4$ міляў.

Найбольшы памятнік — гэта статуя Свабоды, выбудаваны ў 1886 годзе на востраве пры ўезьдзе да Нью-Іорку ў Амэрыцы. Ён важыць 25 тонаў і вышыні мае 46 мэтраў.

---

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### Гэтаму не патрапіш.

Спаткаўся нядаўна я з адным з нашых хлебаробаў, разгаварыліся. Дзякуй Богу, кажу, пагодка трымае, у жніве перашкоды ня будзе.

— Так, то так, кажа, мой размоўца, яно ведама, на жніво гэта добра, але вось ярына сохне, агародніна таксама.

— Дык як-жа ж, павашаму, лепей, каб дождж быў?

— Вось надумалі, то-ж жніво цяперака! Дык, канцы канцамі, якая цяпер Вам пагода патрэбна: сухая ці дождж?

Задумаўся мой размоўца, паскрабаў за вухам, яшчэ трошкі падумаў і кажа:

— Найлепш было-б, каб і дождж ішоў і каб суха было.